№ 2 Пятніца, 27 Чэрвеня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 20 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр., у тэксьце — 10 гр., на апош. стар. — 5 гр.

## На пустым полі.

Найбольшую увагу усяго беларускага грамадзянства павінна зьвяртаць на сябе адна найболей балючая справа—народная прасьвета.

З тае, ці іншае прычыны адбываецца вельмі сумнае зьявішча: школьная справа беларуская, замест патрэбнага росту і росквіту, тлее сабе памаленечку і, калі варункі яе істнаваньня так ці йначай не палепшацца, гатова саусім згаснуць.

А справа гэтая хіба што самая актуальная. Ня толькі кожны сьвядомы беларус, але навет кожны лепшы культурны чалавек з пануючай польскай нацыянальнасьці напэуна згодзіцца з тым, што маладое нашае пакаленьне ня можа гадавацца у дзічыні і цемры.

Асымілятарскі курс прасьветнае палітыкі у нашым краі зьяуляецца вялізнаю памылкаю офіцыяльных органау дзяржаунае прасьветы і гэта сьцверджана няраз навет такім консэрватыуным органам тутэйшае польскае прэсы, як «Słowo». Няраз у гэтай салідңай газэце зьвярталася увага на тое нездаровае зьявішча, што тутэйшая моладзь беларуская, абмяжованая у матуральных правох на Бацькаушчыне, шукае вышэйшае адукацыі дзе-нібудзь у Чэхіі, альбо у Радавай Беларусі.

Да гэтага мы можам толькі дадаць, што прынцып дэнацыяналізацыі беларускіх сялянскіх дзяцей праз урадовую пачатковую школу ніколі не дапне пастауленае перад сабою мэты, таму што ён пярэчыць найпрасьцейшаму прынцыпу пэдагогікі, гэта знач. пачатковаму навучаньню дзяцей на матчынай мове і, нарэшце, пярэчыць самаму простаму разуменьню гуманнасьці.

Калі Польшча сапрауды хоча стаць заходняэуропэйскаю дзяржаваю, дык урад яе павінен раз назаусёды адмовіцца ад вытвараньня пасынкау, ад дарэмнае натугі перахварбаваць беларусау на... палякоу.

Царска-расейская выраба у казённых школах вялася у духу асыміляцыі нашага народу куды спрытней і хітрэй, аднак на працягу не аднае сотні гадоу ведзеная дэнацыяналізацыя з'асымілявала толькі адзінкі беларусау, якія па большай часьці выйшлі ня з самае гушчы народу, а з рознае «чыноунае» расейскае службы.

Хітрасьць расейскіх асымілятарау крылася у тым, што за якія-нібудзь чатыры гады навучаньня у казённай настауніцкай сэмінарыі, простае сялянскае дзіця выходзіла з гэтае школы «панам», апраненым ня у бацькаускую сьвітку, а у чорны крамны каптан, часамі навет з какардаю на шапцы. Гэткі, напр., мужыцкі сын, выхаваны замкнёнаю школаю «въ истинно-русскомъ духѣ» перастavau разумець мову свае маці, часта вельмі навет брыдзіуся яе, за што даставау сабе «панскі» хлеб у расейскай школе тут-жа у сябе на Бацькаушчыне.

Дзе-ж падзеліся цяпер гэтыя штучныя «панкі», спрытна адрываныя гвалтоунаю уладаю ад матчыных грудзей дзеля большае пыхі і моцы заусёды чужое для нас Маскоушчыны?

О, мы бачым іх ізноу на родных загонах бацькоу, дзеля таго, што поле прасьветы для іх апусьцела. Новы палітычны гаспадар павярнуу гэтую справу у саусім іншы бок і ставіць сабе аналёгічныя асымілятарскія задачы, праводзячы іх крыху грубей — *не праз тутэйшых сялянскіх дзяцей*, прайшоушых урадовыя польскія сэмінарыі, а праз галіцыйскіх настаунікау і настауніц, абсолютна чужых і мове і псыхолёгіі беларуса.

Ці-ж нармальная рэч, што народная інтэлігэнцыя наша,—хаця-б сабе і праз расейскую школу паднятая на вышэйшы культурны ровень, — пераходзіць, калі так можна сказаць, у першабытны стан?

І гэта у той час, калі інтэлігэнцыя гэта, праслухаушы самыя кароткія курсы беларусазнауства і паляністыкі, магла-б праводзіць у жыцьцё сьвятое права беларускіх дзяцей вучыцца у роднай школе, на тэй мове, якая уліта у душы іхнія разам з матчыным малаком!

Толькі родная прасьвета, у сваім родным краі, а ня вечна хваравітая эміграцыя можа выхаваць з моладзі чэсных грамадзян, толькі рашучая опэрацыя нарваушае школьнае балячкі зможа разьвеяць, як дым, той узрастаючы шал нацыянальнага антагонізму, які цёмнаю хмараю павіс над нашаю роднаю зямлёю, тою зямлёю, на якой, як нядауна пісау «Kurjer Poranny», жывуць пасынкі («pasierby») польскага гаспадарства.

Пустое поле народнае прасьветы ня можа ляжаць адлогам і для здаровых пасевау на ім павінна дружна і арганізованна падыйсьці усё, якое рэальна працаваць здольна, беларускае грамадзянства.

---

## Кіданьне людзьмі

У 1919 г., як толькі ў Вільню зайшлі палякі, то тут у нас з'арганізаваўся Нацыянальны Камітэт, выбраны агульным сходам беларусаў жыхароў м. Вільні. Усе беларускія інтэлігэнтныя сілы, якія толькі ў той час былі ў Вільні згуртаваліся каля Нац. Камітэту і пачалася дружная праца.

Вынікі гэтай працы былі рэальныя: ў руках беларусоў тады быў Саюз коопэратываў, адбываліся беларускія зьезды, арганізоўваліся вучыцельскія курсы, закладаліся пачатковыя школы ў Вільні і на провінцыі.

Але-ж гэтая праца была абмяжована толькі культурным узмацненьнем.

Былі паміж асобнымі беларусамі сваркі, але ніякіх уплываў на ход працы яны не рабілі.

З прыездам п. Л. тагочаснага старшыні Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі сытуацыя патроху мяняецца. П. Міністар ня мог згадзіцца працаваць толькі над узмацаваньнем культурным, яму была патрэбна шырокая палітыка, (скарэй — палітыканства).

I вось п. Міністар выбірае сабе людзей, яму патрэбных, выдае ім патэнты на беларускасьць, а ўсіх іншых інтэлігэнтаў называе альбо маскалямі, альбо палякамі.

I ў гэтым цесным гуртку пачынаецца другая праца, праца палітыкантства. Пішуцца мэморыялы, рассылаюцца ноты, а штодзенная культурная праца траціць вагу.

I віленскія беларусы час за часам трацяць адну пазыцыю за другой.

Аўторытэт п. Міністра быў тады надта вялікі, і вось яго такая мэтода палітыкі ўвайшла ў жыцьцё беларусоў, як сыстэма, і прывяла ўрэшце ўсяго да таго, што ён стаў ахвярай другога больш спрытнага палітыка.

У Беларускай Гімназіі ў Вільні прынята, як прынцып, што Дырэктар Гімназіі запрашае патрэбных вучыцялёў на чарговы школьны год зараз-жа па сканьчэньні заняткаў у бягучым школьным годзе.

Вынікі такіх запросін у гэтым годзе былі абсолютна нечаканымі і чатыры лепшых пэдагогі выбылі з шыху. Замяніць іх кім-нібудзь другім цяпер абсолютна ня можна, бо няма такіх фаховых сіл.

Так званая „опозыцыя“, якая складаецца з менш фаховых і культурных сіл вучыцельскага пэрсоналу гімназіі ўвайшла ў цесны контакт з новым дырэктарам гімназіі—„homine novo“ на Віленскім гарызонце.

Кіруемая адным з беларускіх дзеячоў, гэтая „опозыцыя“ пакрысе ахапіла гімназію, дзякуючы свайго роду „парлямэнтарызму“, заведзенаму ў гімназіі, пралезла ў Школьную Раду і такім чынам адтрымала магчымасьць кіраваць справай гімназіі пасвойму.

I вось чатыры пэдагогі самых выдатных, якія дужа многа чаго ўнясьлі ў разьвіцьцё гімназіі, якія палажылі нямала работы для стварэньня беларускасьці ў гімназіі, павінны былі выступіць. Іх месца занялі людзі ня толькі мала здольныя пэдагогі, але навет людзі, якія кепска знаюць беларускую мову.

Як прыклад — на абавязак інспэктара абраны п. М. быўшы пры царызьме земскім начальнікам, слабы пэдагог, слаба знае беларускую мову. Можа яго толькі таму і выбралі, што ён раней, як біўшы „па мордзе“ мужыкоў, а то і сёкшы іх, зможа падтрымаць дысцыпліну ў гімназіі?

Ў ліку запрошаных пэдагогаў ёсьць неякі і п. С., які ня мае абсолютна ніякай пашаны з боку вучняў і заўсёды зьяўляецца мішэньню жартаў з боку вучыцялёў.

Як пэдагог, гэты пан — ніякі, ды і цяжка яму быць добрым вучыцелём, калі ён цэлую зіму езьдзіць спэкуляваць, а ў компэнсацыю выдае фэстывалі, гдзе корміць і поіць „опозыцыю“ на чале з яе новым „ватажком“ п. дырэктарам.

Гэта выбраны найцікавейшыя тыпы, а аб другіх няварта гаварыць, бо тут ня біаграфіі вучыцялёў, а высьненьне,—ў якое становішча папала гімназія пад кіраўніцтвам „рэфарматара“-гастролёра на Віленскім гарызонце.

Гэтая самая гімназіяльная „опозыцыя“ хацела апанаваць і Грамадзянскае Сабраньне, але адтрымала паўнейшае фіяско і больш сюды напэўна не адважыцца палезьці.

Пэдагогі, якія цяпер вышлі з складу вучыцельскага пэрсоналу, зьяўляюцца для нас чужымі па сваёй палітычнай тактыцы, але прызнаючы за імі вялізарныя заслугі у узмацненьні нацыянальнай культуры, мы ня можам абайсьці гэтага маўчком.

Нас толькі дзівіць, чаму гэта пасьлы нашыя, якім павінна быць дарага і гімназія, і яе пастаноўка,

і кожная культурная сіла — не падумалі паралізаваць такую агідную працу „опозыцыі“. Далёка лепш было-б, каб замест нікому непатрэбных заігрываньняў з народам, гэтага цуканьня популярнасьці, больш глядзелі: каб ня страціць нічога з тых культурных вартасьцяў, якія ўжо маем.

*В.*

# Віленскі коопэратыўны зьезд.

Зьезд поўнамоцнікаў Саюзу Коопэратываў адбыўся ў Вільні 21 і 22 гэтага чэрвеня.

Першы дзень і пачатак другога цягнуліся абгаворы працы Саюзнай Управы ў 1923 годзе і абгавор грашавое справаздачы за той-жа год.

Рабіліся закіды на слабую гаспадарку Саюзу, што ў Саюзе тавар цаной дарагі бываець, што не такі тавар, які трэба, што быў недахват тавару, што тавар быў дрэнны і г. д.

Далей рабіліся закіды, што Управа Саюзу мала дзеліцца з коопэратывамі крэдытамі, што мала даець тавару напавер, а калі даець тавару напавер, дык толькі фаворытам (пястуном) і. г. д.

Другія — баранілі працу Саюзнай Управы, хвалячы стараньні Управы наладзіць гаспадарку.

Вясковыя рабілі закід, што ад гарадзкіх коопэратываў зашмат поўнамоцнікаў папрыходзіла, што ў гарадзкіх коопэратывах лічацца сябрамі незаплаціўшыя поўнай сумы на пай, што вясковых коопэратываў шмат болей чымся гарадзкіх, а поўнамоцнікаў набралася на зьезд меней, што такім парадкам пры выбарах ў Управу і ў Раду можа стацца крыўда.

У канцы канцоў справаздача была зацьверджана. Была выслухана раскладка расходаў на 1924 год; былі закіды проціў вялікіх расходаў, і ў канцы канцоў было прыгаворана, каб на расходы ішло каля 100 сотых доляў (процэнтаў) ад сумы праданых тавараў.

Далей было прыгаворана, што Управа павінна складацца з трох асоб, а Рада — з дзевяцёх асоб. У Управу аказаліся выбранымі: Турскі, Турчыновіч, Букраба — усе тры ад гарадзкіх коопэратываў. Перад выбарамі быў угавор п.п. Салаўя і Маеўскага ад імя гарадзкіх коопэратываў з вясковымі, каб выбраць ў Управу ад вясковых аднаго беларуса, Будзьку, а ад гарадзкіх двух палякоў: Букрабу і Турскага. Але, як аказалася, палякі інакш галасавалі і правялі ў Управу ўсіх сваіх.

Тады вясковыя адмовіліся выбіраць у Раду, ды падалі протэст проціў выбараў, дамагаючыся склікаць новы зьезд праз два месяцы. Дагаварыліся пасьля склікаць зьезд увосень у лістападзе.

Выбары Рады адменены да восені, да якога часу астаецца старая Рада. Разгляд іншых справаў адложаны да новага зьезду.

*Сьведка.*

# Маленькі фэльетон

## НОТАТКІ ДНЯ

### Чэсны Оскар.

Толькі Амэрыка можа рабіць гэткія конкурсы, які нядаўна адбыўся ў Нью-Іорку.

Управа акцыянэрнага таварыства цукерняў абвясьціла конкурс з выдачаю прэміі ў 40.000 даляраў той асобе, якая будзе прызнана клієнтамі таварыства найболей популярнаю ў гэтым вялізарным амэрыканскім горадзе.

Кожны, хто купляў салодкія рэчы, разам з рахункам у крамах і цукернях гэтага таварыства, адтрымліваў лісток для галасаваньня. У працягу абвешчанага сроку — аднаго месяца ад 15 красавіка да 15 траўня — выдана было 1.566.000 гэтакіх ліcткоў.

З паданых 1.386.000 галасоў 1.320.000 адтрымаў нейкі Оскар Тэтлер.

Гэта — просты палісмэн (паліцэйскі), які стаіць на сваім пасту, на рагу вуліц Гранд і Ляфайет ужо ў працягу шмат гадоў.

Няма чалавека, які не пакланіўся-б

— Чэснаму Оскару.

Чэснага Оскара асабліва любіць вучнёўская дзятва, для якое ў яго заўсёды ў кішані ёсьць цукеркі, а таксама старыкі, для якіх ён, махнуўшы палачкаю, затрымлівае на мінуту, ўвесь вялізарны рух экіпажаў і самаходаў, каб даць ім магчымасьць перайсьці праз вуліцу.

Да таго-ж, як паліцэйскі, ён аказваецца акуратным і талковым работнікам. Яго чэснасьць увайшла ў прыказку.

Нью-Іорскія газэты ў адзін голас цьвярдзяць, што нагрkörада не магла трапіць у больш лепшыя рукі.

Адно толькі можна сказаць:

У Эўропе гэткіх паліцэйскіх няма.

### Шлюб на моры.

Ангельскія газэты расказваюць цікавую гісторыю пра шлюбы на параходзе „Расе“, які пацярпеў аварыю каля берагоў Афрыкі

Справа ў тым, што марскoе жыцьцё, марскія норавы, марскія звычаі — саўсім асаблівыя, непадобныя да „сухапутных“, зьяўляюцца настолькі абавязковымі, што як пастанова „звычаёвага права“ маюць абавязальную моц навет у судовых установах цывілізованых краёў.

Улада капітана на караблі — неабмяжованая.

Яго распараджэньні падчас буры раўназначны прыказу самаўладнага монарха, што мае права жыцьця і сьмерці над экіпажам і пасажырамі.

Як кур'ёз, навет шлюбны контракт, зроблены на караблі і запісаны капітанам у кнігі, мае моц... на сухапуцьці.

Якраз гэта здарылася на параходзе „Расе“.

Ен вёз 2000 партугальскіх і гішпанскіх эмігрантаў і, наехаўшы на падводную скалу, пачаў тапіцца.

Капітан Мэйер, чалавек адважны і энэргічны, ня страціў прысутнасьці духу і калі небясьпека сапраўды зрабілася пагражальнаю, заявіў пасажырам, што ім застаецца рыхтавацца да таго, каб пахрысьціянску, памаліўшыся, перайсьці ў іншы сьвет.

Тады адзін з пасажыраў папрасіў капітана злучыць яго шлюбам з цывільнаю жонкаю, з якою ён жыў 12 гадоў.

Дзеля таго, што „звычаі мора“ гэта пазваляюць, капітан прачытаў установленую малітву і запісаў шлюбную пару ў карабельную кнігу.

Прыклад гэты выклікаў новыя выпадкі таго самага зьместу — і яшчэ 23 пары зьвярнуліся да капітана з гэткаю самаю просьбаю.

Капітан усіх запісаў у шлюбную кнігу, падпісаў пастановы, прылажыў да іх карабельную пячатку і ў гэты момэнт быў выкліканы на палубу гучным крыкам матросаў:

— Падмога! Падмога! Мы выратаваны!

Напраўду, да тануўшага „Расе“ падходзіў гандлёвы амэрыканскі карабель. Бачачы прыкрае палажэньне пацярпеўшага аварыю параходу, непадзявана прыбыўшы на падмогу, карабель спусьціў шлюпкі, якія хутка пад'ехалі да „Расе“.

Усе, як адзін, пасажыры (і навет часьць багажу) „Расе“ — былі выратаваны.

Калі выратаваныя былі высаджаны на бераг, дык пачаліся дзікія сцэны сярод павенчаных капітанам Мэйерам параў.

Усе жанчыны, неспадзявана, перад пагрозаю сьмерці, стаўшыя законнымі жонкамі былі ў поўнай экстазе, а мужчыны злавалі.

Капітан Мэйер заявіў ім, што іхнія шлюбы запісаны ў карабельную кнігу і маюць моц мэтрыкаў. Перад уладамі духоўнымі і ўладамі цывільнымі гэтыя шлюбы зьяўляюцца законнымі і сапраўднымі, бо капітан на моры дый яшчэ ў мінуту сьмяротнае небясьпекі — і сьвяшчэньнік, і судзьдзя і натарыюс.

Гэтая заява капітана Мэйера выклікала буру. Яго жыцьцю пагражала паважная небясьпека з боку некалькіх мужоў, якіх ён навекі злучыў шлюбам з іхнімі „каханымі“ прыяцялькамі.

Жаніцца—каб утапіцца яны згаджаліся.

Але жаніцца, каб жыць з жонкамі да канца дзён сваіх, яны не хацелі, і праз гэта напалі на капітана Мэйера з досіць нядвазначным замерам справадзіць яго туды, куды самі ледзь ня трапілі разам з разьбітым параходам „Расе“.

Толькі моцнае знаньне боксу і сваячаснае ўмяшаньне паліцыі выратавала капітана Мэйера ад гневу „маладых“.

І ім прышлося пакарыцца, бо што зьвяжа капітан на караблі, тое будзе навекі зьвязана і на сухапуцьці.

Гэтак кажа „марскі закон“ і гэта пацьвярджае „зямны суд“.

*Сваяк.*

# Сельска-гаспадарчы конгрэс у Варшаве.

На мінулым тыдні адбыўся ў Варшаве першы зьезд прадстаўнікоў польскіх сельска-гаспадарчых сфэраў. На конгрэсе было каля 800 прадстаўнікоў буйнага і дробнага земляўладаньня са ўсіх часьцей Польскае Рэспублікі. На адчыненьні конгрэсу быў Прэзыдэнт Рэспублікі, Міністар Земляробства і Маршалкі Сойму й Сэнату. Конгрэс адчыніў Прэзэс Саюзу Земляўласьнікаў п. Фудакоўскі, які ў кароткай прывітальнай прамове ахарактарызаваў бліжэйшыя мэты й задачы конгрэсу.

— У першыя гады нашае дзяржаўнасьці, — заявіў п. Фудакоўскі, — кідаецца ў вочы пэўная аднабокасьць пры разрашэньні агульна-дзяржаўных пытаньняў. Мала ўвагі зьвярталася на эканамічныя пытаньні. І толькі, калі пагражала нам фінансавая катастрофа, зьявілася зразуменьне неабходнасьці устанаўленьня цеснага контакту, які істнуе паміж здаровымі дзяржаўнымі фінансамі і эканамічным жыцьцём.

Гэтак сама зрабілася ясным, што дасюль ня было эканамічнае праграмы ў Польшчы. Гэткім чынам, зьявілася сьпешная патрэба выразна устанавіць, што трэба рабіць, каб абясьпечыць край неабходнымі прадуктамі; што павінны для гэтага рабіць урад і грамадзянства і якую, нарэшце, ролю павінны іграць асобныя галіны вытвару, маючы на ўвазе на першым пляне агульную карысьць дзяржавы. На гэтыя пытаньні і павінен адказаць конгрэс.

Шмат якія фактары, як эканамічнага, так і географічнага характару вымагаюць гэткага вядзеньня польскае гаспадаркі, ў якім земляробства іграла-б галоўную ролю. Вымагае гэтага перш за ўсё клопат аб быце вялікага ліку безработных, якія ляжаць цяжкім бярэмем на дзяржаве. Гэтага вымагае гандлёвы балянс і, нарэшце, толькі што пачатае аздараўленьне дзяржаўных фінансаў.

Земляробства ня можа трэбаваць прывілеяў у параўнаньні з іншымі галінамі дзяржаўнае прамысловасьці, аднак-жа ня можа згадзіцца і з тым, каб за яго рахунак разьвіваліся іншыя галіны дзяржаўнай гаспадаркі. Гэткае палажэньне ня можа далей цягнуцца, калі польскае земляробства ў будучыне павінна іграць ролю карміцеля дзяржавы. Крызыс, які перажывае земляробства вельмі і вельмі небясьпечны. Выклікаецца ён тым, што купляльная здольнасьць земляроба падае кожны дзень і слабее яго здольнасьць, як платніка падаткаў.

Вялікая справа аздараўленьня дзяржаўных фінансаў знаходзіць найбольшае спачуцьцё з боку земляўласьнікаў, дзеля таго, што ніхто лепей не разумее неабходнасьці ўрэгуляваньня грашавых адносін і ніхто лепей ня можа ацаніць стратаў, выкліканых падзеньнем валюты, як земляўласьнікі. Адсюль выцякае зразуменьне неабходнасьці моцнага падатковага напружаньня; земляўласьнікі хочуць плаціць, хочуць быць працаздольнымі і плады свае працы зьбіраць, але гэтак сама хочуць, каб разьмер падаткаў і данінаў апіраўся на справядлівых асновах. І калі земляўласьнікі маюць адвагу напомніць аб належным пашанаваньні сваіх правоў і інтарэсаў, дык толькі ў гэткай меры, ў якой пазваляе гаспадарчая роўнавага краю, бо ўпадак прамысловасьці падарваў-бы дзяржаўную пазыцыю Польшчы.

У адказе на гэтую прамову міністар земляробства Станіслаў Яніцкі ад імя ўраду заявіў, што земляробства, як яму здаецца, зьяўляецца асноваю дабрабыту краю. Але ў цяперашні час земляробства нашае ўвайшло ў пэрыяд крызысу, які цяжка адбіваецца на гэтай галіне эканамічнага жыцьця. Аднак гэты крызыс зьяўляецца

## Японія.

### Няверныя чуткі.

Японскае міністэрства заграгічных справаў пярэчыць чуткам аб тайным паразуменьні з С. С. С. Р., паводлуг якога Японія нібыто за нэфтавыя крыніцы на Сахаліне, аддае саветам старыя ваенныя караблі.

## Латвія.

### Протэст процi прамовы Троцкага.

Латвійскі пасол у Маскве падаў Чычэрыну ноту протэсту проці варожай да Латвіі маніфэстацыі пры дараваньні латыскімі камуністамі аэропляну чырвонай арміі, калі Троцкі меў двазначную прамову, скіраваную проці Латвіі.

## Англія.

### Мак-Дональд аб нарадзе з Эрыо.

На паседжаньні парлямэнту Мак-Дональд паведаміў аб нарадзе з француськім прэм'ер-міністрам Эрыо. Мэтаю варады былі способы правядзеньня ў жыцьцё пляну Давэса аб забясьпечаньні міру ў цэнтр. Эўропе. Міжсаюзная конфэрэнцыя будзе склікана ў Лёндане на 15 ліпня г. году.

## Францыя.

### Эрыо аб нарадзе з Мак-Дональдам.

Як паведамляе аг. Рэйтэра францускі прэм'ер здаволены нарадаю з ангельскім прэм'ерам Мак-Дональдам. Абодва прэм'еры імкнуліся да паразуменьня.

### Прызнаньне саветаў.

У пачатку ліпня ў Парыжы будзе склікана падгатаваўчая конфэрэнцыя па пытаньню аб прызнаньні de jure саветаў. Прызнаньне лічыцца блізкім.

### Ракоўскі ў Эрыо.

Ангельская преса паведамляе, што 22 гэсага червеня Ракоускі быу прыняты францускім прэм'ерам Эрыо.

## Эстонія.

Эстонскі парлямэнт пастанавіў завясьці залатую валюту. Уводзіцца залатая крона, роўная 100 папяровым маркам.

## Грэцыя.

### Што парабляе быўшы кароль?

Як паведамляюць з Парыжу, быўшы грэцкі кароль хоча адтрымаць у Фрагцыі працу ў гандлёвых сфэрах.

## Румынія.

### Прызнаньне саветаў, але ўзамен за Бэсарабію.

Румынскі прэм'ер міністар Братіано заявіў у парлямэнце што дыплёматычныя зносіны з С. С. С. Р. могуць быць адноўлены толькі ў выпадку прызнаньня саветамі правоў Румыніі на Бэсарабію.

## Югаславія.

### Фальшывыя чуткі.

Урадовыя сэрбскія сфэры пярэчаць чуткам, пушчаным аўстрыяцкаю венскаю прэсаю аб неспакоі ў Югаславіі.



## Агляд прэсы.

Прэса усяго сьвету занята разважаньнем над нячуваным па сваім характары палітычным забойствам у Італіі, якое аканчальна падарвала маральна-палітычную пазыцыю фашызму і яго паклоньнікаў у тых дзяржавах, дзе ён пасьпеў ужо пусьціць карані. З польскае прэсы адною з першых адгукнулася на гэтае здарэньне газэта „Przegląd Wieczorny", якая піша:

Сутнасьць справы ня ў самым забойстве. Забойства служыла фашыстам у самым пачатку ступеньню да ўлады. Забіваліся сябрамі арганізацыі „чорных сарочак" ворагі арганізацыі ўсюды: ў гарадзкой радзе, на вуліцы, перад касьцёлам і ў касьцёле. Кідаліся ручныя гранаты, калі справа йшла аб „буйнай экспэдыцыі" і дзеялі кінжалам, калі трэ'было „ўхіліць" праціўніка. Загінулі ўжо сотні ахвяраў, і сьмерць Маттэотті можа быць прайшла-б незаўважанаю, як і ранейшыя, калі-б ня вылезла наверх тое, што ўжо існавала даўно: ўнутраная гніль арганізацыі, падкупнасьць і здрада. Маттэотті меў дакумэнты акцыянэрнага таварыства Сінклера, якія сьведчылі аб тым, што падчас нэфтавых перагавораў ішла справа аб грабежніцтве дзяржаўных грошай на карысьць фашыстаўскіх лідэраў. Ен рыхтаваў прамову са ўсімі падробнасьцямі

І упаў нявіннаю ахвяраю фашызму, які усе яшчэ стараюцца яго староньнікі за межамі Італіі абараніць. З гэтае прычыны „Gazeta Warszawska", якая заусёды захаплялася фашызмам і брала яго за прыклад патураньня у Польшчы, піша:

Уласна кажучы, трэ' было-б цяпер гаварыць не аб падзеях у Італіі, а аб уплыве сусьветнае прэсы. Цяпер ужо можна саўсім спакойна гаварыць, што прэса зьяўляецца галоўным вінавайцаю тае нэрвовае хвалі, якая з прычыны здарэньня ў Італіі ахапіла грамадзянства і навет урады нашага контынэнту.

Значная частка сусьветнае прэсы, асабліва яе нэрвовы апарат, гэта знач. інформацыя знаходзіцца ў руках лібэральных міжнародных элемэнтаў. Элемэнты гэтыя, ап'янеўшыя ад перамогі лявіцы ў Англіі і Францыі пастанавілі цяпер зрабіць гэнэральны штурм проці Італіі, як апошняе, па іх думцы, „крэпасьці" эўропэйскае рэакцыі.

Вялізныя перамогі фашызму і Мусоліні ўжо даўно разьюшалі лібэральна-прогрэсыўную сусьветную опінію. Разьюшэньне гэтае дасягнула аднак свайго апогэю ў момэнт, калі, пасьля перамогі францускае лявіцы, Італія зрабілася галоўным запорам для „йдучае налева Эўропы".

У гэнэральных штабах эйропэйскіх соцыялістычных інтэрнацыяналаў пастаноўлена зрабіць концэнтрычную атаку проці Італіі. Пушчаны лёзунг: за якую-б там ні было цану скомпромітаваць і скінуць Мусоліні і фашызм.

Далей газэта усялякімі спосабамі стараецца абяліць Мусоліні і фашызм. Што, вось, сям'я не без калекі, што:

і ў фашызьме, як, нарэшце, і ў кожным іншым вялікім палітычным руху знайшліся спачатку няпэўныя элемэнты, якія ня маюць нічога супольнага з ідэйнаю праграмаю партыі. З гэтымі элемэнтамі Мусоліні даўно вядзе барацьбу. Асабліва пасьля апошніх выбараў „чыстка" фашыстаўскае партыі прыняла надта шырокія разьмеры. Саўсім магчыма, что ў вартым жалю забойстве згулялі галоўную ролю якраз тыя элемэнты, якія маральна ўжо даўно адпіхнуты ад фашызму.

## ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

— **З 1-га ліпня гэтага году,** згодна з распараджэньнем Прэзыдэнта Рэспублікі, польскія маркі перастаюць быць праўнымі значкамі платы. Маркі будуць мяняцца на злотыя Цэнтральнаю Дзяржаўнаю Касаю, скарбовымі касамі і аддзеламі Польскага Банку да 31 лістапада 1924 году, а пасьля да 31-га мая 1925 году толькі Цэнтральнаю Дзярж. Касаю і аддзеламі Польскага Банку.

— **Страляць ці званіць а 12 гадзіне?** Тэхнічны аддзел магістрату апрацоўвае проект сыгналізацыі дзеля настаўляньня гадзіньнікаў. Проектуецца ў 12 гадзін дня і ночы страляць з гарматы, а ў 6 гадзін раніцай і ўвечары ў званы званіць. Аканчальная пастанова яшчэ ня прынята.

— **У Беларускай Віленскай Гімназіі** з новага школьнага году маюць адбыцца вялікія зьмены пэдагогічнага пэрсоналу. Дырэктар п. Р. Астроўскі не запрасіў на будучы 1924—25 школьны год выдатнейшага з вучыцялёў п. М. Красінскага. У зьвязку з гэтым падалі заявы аб адстаўцы вучыцялі Гімназіі А. Трэпка і А. Луцкевіч. Не запрошана таксама на новы школьны год і вучыцелька па прыродазнаўству панна Люба Русецкая.

— **На гэтым тыдні адбыўся ў Вільні зьезд дэлегатаў Віленскага Саюзу Коопэратываў.** Пры выбарах ў Управу Саюзу праваліўся саўсім грамадз. Адвартны Будзька (беларус), які ў мінулым годзе гэтак стараўся аб нейкім злучэньні коопэратываў.

— **Крэдыт для дробных земляўласьнікаў.** Міністэрства Скарбу з вольных запасаў гатоўкі палажыла ў сельска-гаспадарчы банк 4 мільёны злотых на тры месяцы, пакінуўшы за сабою права апрацоўкі праграмы расходаваньня гэтых грошай на падмогу для дробных земляўласьнікаў.

— **На работу у Францыю.** 25-га гэт. чэрвеня выехалі з Вільні на палявыя работы ў Францыю сельска-гаспадарчыя рабочыя. Пажадаўшых ехаць набралася толькі 25 чалавек.

— **Спрытны гандляр.** Як піша тутэйшая расейская газэта „Виленское Утро", па віленскіх крамах і рынках ходзіць невядомы малады чалавек, які прапануе купляць у яго патрэт Прэзыдэнта Польскае Рэспублікі п. Войцехоўскага. Калі хто-нібудзь адмаўляецца, дык невядомы вымае запісную кніжку, куды запісвае адрэс і прозьвішча гэтае асобы. Пры гэтым ён кажа, што за адмову купіць патрэт Прэзыдэнта вінаватыя будуць аддавацца пад суд. На рынках і ў дробных крамах гандляры, баючыся адпавядальнасьці, купілі ў афэрыста па два-тры патрэты.

## Пісьмо ў Рэдакцыю.

*Паважаны Пане Рэдактару!*

Не адмоўце ў магчымасьці заявіць праз „Грам. Голас" ніжэйпаданае:

Газэта „Сын Беларуса" на мяне піша розную брахню. Адказы пісаў—ня друкуе, вызываў нац. камітэт на трацейскі суд—ня йдзе. Публічна даў аплявуху А. Луцкевічу за паклёп, ня прызнаецца, кажа, што няпраўда. Дык пасьля гэтага я ні ў якую полеміку з газэтай „Сын Беларуса" не ўваходжу. Няхай брэшуць, бо гэткія і на Бога брэшуць.

З пашанаю *С. Валэйша.*

## *Беларусы!*

*Чытайце і пашырайце газэту на сваей роднай мове — „Грамадзкі Голас". Не шкадуйце грошай на падпіску, калі хочаце, каб да вашага голасу прыслухваліся!*

Выдавец: Беларускае Грамадзянск. Сабраньне. Рэдактар: **Язэп Салавей.** Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.